Год VII. КРАСАВІК 1929 г. Кніжка 4(24)




Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

ЗЬМЕСТ:



Цана асобнага нумару 30 гр.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. № 1.

# З практыкі для практыкі.

Чаражбіты пагоды. Вядома кожнаму гаспадару, як важна ведаць назаўтра пагоду. Для гэтага служыць найлепш дарагакаштоўная прылада, якая завецца баромэтрам. Ёсьць і танныя прылады, якія радзім нашым чытачом спробаваць.

Узяць чыстую бутэльку і ўпусьціць туды некалькі звычайных п'явак, што жывуць на нашых балотах і $^2/_3$ бутэлькі наліць чыстай вадой. Горла бутэлькі накрыць рэдкім палатном, каб паветра даходзіла да бутэлькі.

Калі прадбачыцца назаўтра ясная пагода, дык п'яўкі весела в'юцца на паверсе вады, а як прадбачыцца мокрая пагода, дык п'яўкі навэт у сонечны дзень лежаць на дне бутэлькі.

Бутэльку трэба трымаць на вакне, але трохі зацяніць ад сонцапёку. Два разы на тыдзень пажадана зьмяняць ваду.

Вось і будзе танная прылада для прадбачаньня назаўтра пагоды.

### Якія штучныя гнаі можна мяшаць між сабой:

*Супэрфасфат* — каініт, паташовая соль, сялетра, сярчян амоніяковы.

*Тамасоўка* — вапна, азатняк, сялетра.

*Паташовая соль* — сялетра, супэрфасфат, амоньяковы сярчан і кайніт.

*Азотняк* — вапна, тамасоўка.

*Сялетра* — кайніт, паташовая соль, тамасоўка, супэрфасфат, вапна, амоньяковы сярчан.

### Можна мяшаць толькі перад пасевам.

*Тамасоўка* — кайніт, паташовая соль.

*Паташовая соль* — тамасоўка, вапна, азотняк.

*Азотняк* — супэрфасфат, амоньяковы сярчан.

*Сялетра* — азотняк.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Зялёныя ўгнаеньні ў справе падваеньня ўраджаяў.

Значэньне і карысьць зялёнага ўгнаеньня настолькі бясспрэчны, што гаварыць ужо прыходзіцца не аб ужываньні яго наогул, але аб самым хуткім пашырэньні і ўнядрэньні літаральна ў кожную гаспадарку, бо ў гэтым—самы кароткі і пэўны шлях да падвышэньня ўраджайнасьці. Пры гэтым трэба яскрава падкрэсьліць, што няма той гаспадаркі, дзе-б не магло ўжывацца зялёнае ўгнаеньне, і няма той мяжы, за якою б канчалася карысьць, а адсюль і правіла—чым больш, тым лепш.

Існаваўшая да апошняга часу думка, што зялёнае ўгнаеньне больш карысна на пяшчанай глебе, зьяўляецца вялікаю памылкаю, бо вынікамі розных дасьледваньняў устаноўлена, што на багацейшых глебах большая і карысьць. Доказам гэтага служаць вынікі досьледаў навукова-дасьледчых установ аб сярэдніх прыбаўках зерня жыта па лубінаваму ўгнаеньню:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На пяшчанай глебе | каля | 5 | цэнтнераў на гэктар; |
| „ супяшчанай „ | „ | 6 | „ |
| „ сугліністай „ | „ | 8 | „ |

Таксама можна лічыць устаноўленым, што на ўгноеных глебах лубін дае значна большыя прыбаўкі, чым на прэсных (няўгноеных), прычым працяг дзейнасьці лубіну на ўгноеных глебах назіраецца шмат даўжэй (да 5 і нават 6 год.) Ня меншую карысьць дае сумеснае ўжываньне з лубінам невялікіх колькасьцяй гною. Так, напрыклад, 3-гадовыя досьледы Навазыбкаўскай дасьледчай станцыі паказалі, што дабаўка да лубіну пры заворцы 90 цэнтнераў гною дала наступны ўраджай жыта з гэктару:

| | | |
|---|---|---|
| Без угнаеньня | 5 цэнтнераў зярня | і 8 цэнтнераў саломы |
| па лубіну | 9 „ „ | „ 13 „ „ |
| па лубіну + 90 цэн. гною | 14 „ „ | „ 21 „ „ |

Гэты і шмат іншых досьледаў даказваюць, што самая невялікая колькасьць гною, дамешанага да лубіну, шмат узмацняе ўплыў аднаго і другога і павялічвае працяг дзейнасьці іх на некалькі год.

Досьлед Менскай Расьлінаводнай станцыі, праведзяны ў сялян-дасьледчыкаў, паказаў, што лубін павялічвае дзейнасьць ня толькі гною, але і мінэральных угнаеньняў. Напрыклад, унясеньне пад пасеў лубіну 5 тон фастфарыт-

най мукі павялічыла ўраджай бульбы на 90 проц. у той час, як па аднаму лубіну бульба дала прыбаўку у 45 проц. Такім чынам дадатковая прыбаўка ў 45 проц. прыходзіцца на долю фасфарытнай мукі, а гэта ў сваю чаргу тлумачыцца вялікай здольнасьцю лубіну выкарыстоўваць цяжка-растварымыя спажыўныя матэры.

Пры першапачатковым разьвядзеньні лубіну там, дзе ён ніколі ня сеяўся, *вялікае значэньне для яго росту і наступнай дзейнасьці мае заражэньне сьвежай глебы клубеньковымі бактэрыямі*, якія адыгрываюць вельмі важную ролю фабрыкі па ператварэньні азоту з паветра ў сялетру, зьбіраючы яе ў каранёвых наростах (падобных да бародавак). Дзеля таго, каб хутчэй размножыць гэтыя карысныя бактэры і тым самым палепшыць разьвіцьцё лубіну ў першы год, ужываецца наступны спосаб: клубеньковыя наросты абрываюцца ў восень з карэньняў добра разьвітага лубіну і хаваюцца да вясны прысыпанымі зямлёй у склепе, а ў дзень пасеву лубіну — добра расьціраюцца з зямлёю і перамешваецца з насеньнем, якое зараз-жа высяваецца і барануецца, пры чым надвор'е выбіраецца пахмурнае, бо бактэры баяцца сушы і зусім гінуць ад сонца. Другім, больш простым спосабам заражэньня глебы зьяўляецца пасеў на полі зямлі з-пад лубіну, якой патрабуецца каля 5 вазоў на гэктар. Гэта зямля таксама сеецца ў пахмурную пагоду і, памагчымасьці, хутчэй барануецца.

Абодвы гэтыя спосабы для большай пэўнасьці ўжываюцца разам, а на бедных глебах пажадана нават дабаўляць хоць невялічкую колькасьць гною, які таксама садзейнічае размнажэньню патрэбных бактэрый. Шкадаваць для гэтага гною ні ў якім разе ня трэба, бо ён акупіцца значна вышэй, чым пры ўжываньні яго асобна.

Доказам-жа карысьці заражэньня глебы пры першым пасеве лубіну служаць вынікі Навазыбкаўскай станцыі, якая атрымала наступныя ўраджаі жыта з гэктару:

| | | |
|---|---|---|
| Без угнаеньня | 4,75 цэнт. зярня | і 13 ц. саломы. |
| Па лубіну без заражэньня | 6,25 „ „ | „ 15 „ „ |
| Па лубіну з заражэньнем | 10,0 „ „ | „ 25 „ „ |

З табліцы магчыма бачыць, што адно заражэньне глебы ў параўнаньні з пасевам без заражэньня, павялічыла ўраджай жыта на 60 проц.

Далей, досьледы паказваюць, што тэрмін запашкі лубіну і тэрмін пасеву жыта маюць таксама вялікае значэньне. Так, напрыклад, досьледамі Навазыбкаўскай станцыі высьветлена, што пры дастатковай колькасьці ападкаў і вільготнасьці глебы найбольшы ўплыў мае лубін, запаханы ў пэрыяд бліскучых струкоў, асабліва пры ўмове, калі запашка лубіну зроблена за 3—4 тыдні да пасеву жыта і наадварот — у засушлівыя гады, а таксама пры

пасеве жыта па сьвежай ральлі — лепшыя вынікі дае запашка ў час красаваньня і шэрых стручкоў, ня гледзячы на меншую масу. Тлумачыцца гэта тым, што старэйшы лубін патрабуе для свайго раскладу больш часу і вільгаці і таму яго трэба заворваць задоўга да пасеву, а ў сувязі з гэтым, бязумоўна, ня трэба пазьніцца і з пасевам жыта бо позьнія пасевы не выкарыстоўваюць лубіну і даюць значна меншы ўраджай.

Усё сказанае вышэй датычыцца, галоўным чынам лубіну, як папаравага ўгнаеньня, а цяпер неабходна высьвятліць іншыя формы і віды зялёных угнаеньняў, якія ідуць на зьмену першай.

**Будучае палявой гаспадаркі—у зьвязку з зялёнымі ўгнаеньнямі.**

Наступная форма, ці нават сыстэма ўгнаеньняў, сьцісла зьвязана з падсяўнымі і пажніўнымі расьлінамі (лубін і сэрадэля), якім супраўды належыць самая пачэсная роля ў інтэнсіфікацыі палявой гаспадаркі. Прыклад Нямеччыны яскрава сьведчыць аб тым, што буйнае разьвіцьцё яе сельскай гаспадаркі ў значнай ступені грунтавалася на падсяўных і пажніўных расьлінах, а досьледы Савецкіх і ў прыватнасьці Беларускіх дасьледчых устаноў даюць у гэтым напрамку самыя спрыяючыя вынікі:

*Па-першае*—гэтыя расьліны не займаюць спэцыяльнага месца і могуць быць прыстасаваны для кожнага севазвароту і кожнай гаспадаркі;

*па-другое*—яны замяняюць значныя колькасьці гною, даючы магчымасьць накіраваць яго пад больш даходныя культуры, як караньплоды і інш.;

*па-трэцяе*—яны даюць адначасова корм і ўгнаеньне (сэрадэля) і, нарэшце, яны шмат дзешавей за самастойныя ўгнаеньні.

Яскравым доказам карысьці гэтых расьлін, як угнаеньня, можа служыць 3-гадовы досьлед Менскай Расьлінаводнай станцыі, вынікі якога паказаны ў наступнай табліцы.

| НАЗВА УГНАЕНЬНЯУ | Ураджай бульбы з гэктару | | Ураджай зерня аўса з гэктару | | Ураджай віка-аўсянага сена з гэктара. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У цэнт. | У % % | У цэнт. | У % % | У цэнт. | У % % |
| Без угнаеньняў . . . | 115 | 100 | 7 | 100 | 22 | 100 |
| Падсяўная сэрадэля . . | 153 | 132 | 9 | 127 | 28 | 127 |
| Падсяўны лубін . . . | 167 | 145 | 11 | 155 | 29 | 132 |
| Пажніўны лубін з асеньняй заворкай . . . | 164 | 142 | 9,5 | 137 | 24,5 | 110 |
| Пажніўны лубін з вясеньняй заворкай . . . | 169 | 147 | 10 | 146 | 33 | 150 |

Да табліцы трэба дадаць, што падсяўныя і пажніўныя расьліны на ўгнаеньне сяяліся ў жытнім полі: сэрадэля падсеяна вясною, падсяўны лубін у час красаваньня жыта а пажніўны лубін адразу-ж пасьля прыборкі жыта. Першай культурай па гэтых угнаеньнях ішла бульба, за ёю авёс і потым папаравая віка. Прыведзеныя лічбы паказваюць, што найбольшы ўплыў на ўсе культуры аказаў пажніўны лубін, які павялічыў ураджай у паўтара разы, прычым лепшай парою заворкі пажніўнага лубіну аказалася вясеньняя. Вельмі значныя прыбаўкі дала і падсяўная сэрадэля, ня гледзячы на вялікую яе масу. Асабліва цікава адзначыць, што дзейнасьць угнаеньняў не зьменшаецца нават на трэцяй культуры, што паказвае на доўгі працяг дзейнасьці,

Шмат гадовыя досьледы Навазыбкаўскай станцыі таксама даказваюць вялізарную карысьць пажніўнага лубіну і падсяўной сэрадэлі, прычым асабліва цікава адзначыць, што апошняя дае значныя прыбаўкі ня толькі ад поўнай сваёй масы, але і ў тым выпадку, калі першы ўкос сэрадэлі прыбіраўся на сена, а заваравалася толькі атава. Так, напрыклад, па дадзеных за 5 год, бульба па гэтых угнаеньнях дала наступныя прыбаўкі з гэктару:

| | |
|---|---|
| Па пажніўнаму лубіну . . . . . . | 60 цэнтнераў. |
| „ падсяўной сэрадэлі, запаханай поўнасьцю . | 78 „ |
| „ сэрадэлевай атаве пасьля ўборкі на сена . | 37 „ |

Гэта значыць, што падсяўная сэрадэля, даўшы ўкос сена, акрамя таго атаваю, запаханай на ўгнаеньне, павялічыла ўраджай бульбы на 37 цэнтнераў.

Апрача бульбы, якая аплачвае зялёныя ўгнаеньні найвышэй (у 2 разы вышэй за збожжа), досыць высокія ўраджаі даюць і іншыя расьліны, як гэта відаць было з першай табліцы Менскай Расьліна-воднай станцы.

Досьлед Навазыбкаўскай станцы з аўсом яскрава гэта пацьвярджае, што відаць з наступных лічбаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пасеў аўса без зялёных угнаеньняў даў з гэктару | 6,5 цэн. зер. | і 8 ц. | сал. |
| „ „ па падсяўному лубіну | 19 „ „ | „ 28 | „ „ |
| „ „ па пажніўнаму лубіну | 20 „ „ | „ 27 | „ „ |

Гэта сьведчыць аб тым, што па лубіну, як падсяўному, так і пажніўнаму, ураджай аўса патроіўся.

З другога боку, аднагадовы досьлед Менскай Расьлінаводнай станцыі з кармовымі буракамі і двух гадовы з жытам—паказаў, што папаравы лубін павысіў ураджай жыта на 25 проц., а пажніўны лубін, пасеяны ў жытнім полі на ўгнаеньне пад буракі, павысіў ураджаі апошніх на 83 проц. Высокі ўплыў пажніўнага лубіну на буракі трэба

тлумачыць і пасьлядзейпасьцю папаравага лубіну, па якім буракі ішлі другім каранём.

Усяго сказанага зусім дастаткова для таго, каб зразумець наступнае: *Пашырыць, як мага хутчэй, зялёныя ўгнаеньні!*

Аграном **Я. Жогло.**

Менск.
Расьлінаводная станцыя НД І.

---

# Праца чытачоў „Сахі“

## Як я атрымаў 4000 пуд. кармавых буракоў з дзесяціны.

У кніжцы № 3 „Сахі“ пры апісаньні культуры кармавога бурака між іншым гаворыцца, што буракі можна садзіць расадай. Гэты спосаб лічу нават лепшым, чым пасеў насеньнем непасрэдна на грунт дзеля таго, што: 1) эканоміцца 9/10% насеньня; 2) палоць рукамі амаль што ня прыходзіцца (а праца гэта вельмі марудная); 3) прарэджваць буракі ў радкох ня трэба і 4) глебу да часу высадкі расады можна адпаведнай падрыхтоўкай ачысьціць ад сярнякоў і добра яе ўгноіць.

Можа хто думае, што культура кармавых буракоў — справа трудная, бо так думаў і я, пакуль садзіў буракі не расадай, а насеньнем. Як тут ня стараешся з апрацоўкай ральлі і даглядам за буракамі, але сарнякі глушылі бурак. Каліж—я пачаў садзіць расадай, буракі давалі добры ўраджай кожны год. У прошлым годзе я атрымаў буракоў, калі ураджай перавесьці на дзесяціну, 4000 пуд. Як я гэтага дабіўся, я хачу тут расказаць чытачом „Сахі“.

Буракі я садзіў пасьля жыта і пасьля бульбы. У першым выпадку я клаў гной, як у нас яго кладуць пад бульбу. Калі-ж прыходзілася садзіць буракі па бульбоўнішчу, дык пад бульбу клаў гной трохі больш, як клаў звычайна і перад высадкай расады буракоў удабраў глебу кайнітам з разьлікам 36 пуд. на дзесяціну.

Вясной, як толькі можна было ўз'ежджаць на ніву з бараной, я ральлю скародзіў. Барана пускалася ў працу кожны раз, як толькі ніва пакрывалася зеленьню сарнякоў, што прыходзілася рабіць каля 3-х разоў. Гной лічу лепш вывозіць увосень і ў крайнім выпадку як мага рана вясной і плытка яго загараць.

Калі расада дала 4 лісткі, я высаджваю яе на успульхненую пружыноўкай ніву. Кайніт высяваю загадзьдзя перад пасадкай расады. Палівацъ расаду па маім пазіраньням ня трэба і нават шкодна, бо непаліваная расада ляпей

пражывае і ўмацоўваецца.*) Трэба толькі ў часе пасадкі расады добра абціскаць зямлю каля каранькоў.

Пры такім способе пасадкі я ніколі не палю буракі, а толькі за лета 2-3 разы рыхлю зямлю сахой **).

Вось і ўсе „хітрасьці“ карыснай для беларускага селяніна культуры буракоў.

Зразумела, што глебу трэба заўсёды пад буракі выбіраць найлепшую. **Пушкарэвіч.**

---

# Лён.

У апошнія часы лён, у параўнаньні з жытам, аўсом, ці іншымі збажынамі, дае ў тры і чатыры разы большы даход. Цэны на лён усё падымаюцца і падымаюцца, бо мануфактурныя фабрыкі патрабуюць валакна усё больш і больш і зьніжэньня цэн у будучыне спадзявацца ня трэба, бо цяпер на рынку з большаю ахвотаю купляюць тканіну з лёну, чым з хлапка, як таньнейшую, прыемнейшую і амаль што ня ў дзесяць разоў мацнейшую Дробныя гаспадары, прадаючы збожжа, заўсёды спатыкаюцца з вялікаю канкурэнцыяй з боку абшарнікаў, якія могуць прадукаваць збожжа у параўнаньні з дробнымі гаспадарамі шмат таней, і прадаваць яго на вагоны, абмінаючы, такім чынам, розныхц дробных перакупшчыкаў, з якіх кожны таксама хоча зарабіць. Пры прадукаваньні-ж лёну абшарнік ніколі ня можа вытрымаць канкурэнцыі з дробнымі гаспадарамі, бо лён вымагае шмат працы, калі ў вялікіх фальварках рабочых рук бывае вялікі недахват.

Трэба зазначыць, што лён у нас на Беларусі родзіць вельмі добра, і мы радзім нашаму сялянству зьвярнуць на яго асаблівую увагу, пашыраючы плошчыню засеву, хацяж—бы і коштам зьмяньшеньня плошчыні засеву збожжа.

Павялічэньню плошчы засеву лёну перашкаджае толькі адзін вельмі важны факт—лён ня можна сеяць на адным і тым жа самым мейсцы некалькі гадоў падрад, бо выцягваючы з зямлі ўсе тыя самыя складнікі, лён значна аслабляе зямлю і дрэнна родзіць. Сеяць лён на тым-жа самым мейсцы можна толькі не раней як праз 5 гадоў.

Ня будзем тут затрымоўвацца над тым, як апрацоўваць зямлю пад лён, калі сеяць (раілі-б лепш лён сеяць

---

*) Шкоднасьць ад паліўкі расады буракоў бывае тады, калі гэта паліўка робіцца ў мокрую пагоду, або днём у часе гарачыні. У сухую пагоду высаджваць расаду ніколі ня варта.

**) Лепш было-б ужываць спэцыяльный палольнік, або матыжку.
**Рэд.**

раней) і палоць яго, бо ўсё гэта нашаму сялянству большменш ведама, зьвернем тут толькі ўвагу на ўжываньне штучных гнаёў (парашкоў), — якія вельмі добра аплачваюцца, а перадусім солі паташовыя (калійныя). Гэтыя солі некаштоўныя і могуць значна павялічыць ураджаі, але нажаль яны ў нас яшчэ вельмі мала разпаўсюджаны. Так сама і салітра росту лёну вельмі спрыяе, але ўжываць яе трэба асьцярожна. Аб тым як ужываць штучныя гнаі мы ўжо гаварылі ў папярэдніх нумарох нашае часопісі.

Сёньня мы затрымаемся больш над апрацаваньнем лёну, пачаўшы з вырываньня яго, бо тут фактычна робіцца найбольш памылак, і ўся далейшая праца, пачаўшы ад вырываньня лёну, мусіць быць грунтоўна зьменена і палепшана.

Гэта рэч неабходная, бо пры тых способах, што ўжываюцца ў нас цяпер, лён шмат траціць на якасьці; наш добры лён проста марнуецца і селянін не атрымоўвае за яго і паловы той цаны, якую-б. мог атрымаць, датрымоўваючы пры апрацаваньні усе патрэбныя умовы. Звычайна ўсюды вырываюць дасьпеўшы лён цэлымі жменямі, вяжучы яго ў снапы, вось пры вырываньні і вязаньні лёну вельмі важна рассартаваць снапкі на найдаўжэйшыя, сярэднія і малыя, бо пазьней дарабляць да сябе валакно аднальковае даўжыні шмат лягчэй.

Высушаны на полі лён звычайна малоціцца ў нас цапамі, або якімі-небудзь шырокімі кіямі (пранікамі, што жанчыны палошчуць бялізну) пры чым шмат лёну рвецца.

Яшчэ вельмі важнаю памылкаю ў нас ёсьць няправільнае мачэньне лёну. Вымалачаны лён мочыцца ў нас звычайна абы ў якім мейсцы, з стаячаю, бруднаю, а часта і зарослаю розным зельлем, вадою, і там укладаецца на брудным балотным сподзе, а зьверху прыціскаецца яшчэ накіданаю на яго зямлёю ці дзярном. Гусі, качкі, сьвіньні і розная жывёла, палошчучыся ў гэтай вадзе, забружавае намочаны лён і такім чынам, замест яснага прыгожага валакна, атрымоўваем тавар цёмны, значна танейшы. Але мала яшчэ знайсьці да мачэньня лёну добрае мейсца з чыстаю вадою і пяшчыстым дном, трэба таксама дакладна дапільнаваць і час мачэньня лёну, бо як за шмат кароткае, так і за шмат доўгае мачэньне заўсёды прыносіць нам страты. Час мачэньня залежыць ад тэмпэратуры вады і галоўную ролю адыгрываюць тут маленькія істоты, т. зв. бактэрыі, якіх мы звычайным вокам убачыць ня можам, а толькі праз спэцыяльныя прылады (мікраскоп). Гэтыя бактэрыі адклейваюць валакно ад кастрыцы. Для свайго жыцьця бактэрыі вымагаюць адпаведных умоў, адпаведнае тэмпэратуры і г. д.

Пры добрых умовах працэс гэты адбываецца хутчэй,

пры горшых паволі, а таму ўперад азначыць час мачэньня трудна.

Трэба быць вельмі выспэцыялізаваным у гэтым напрамку, каб адразу на вока пазнаць, ці час ужо выймаць лён з вады і разсьцілаць яго ці не. На фабрыках, што перарабляюць лён, мочаць яго ў спэцыяльных вялізарных кадушках з цёплаю вадою, маюць до разпазнаньня канца працэсу спэцыяльныя прылады, а таму там гэтая праца робіцца правільна амаль што бяз памылак.

Вымачаны і палежаўшы на расе лён, пасьля сушыцца на паветры, дасушваецца яшчэ пры агні, а пасяля ўжо трэплецца і чэшыцца.

Вось жа пры гэтай працы робімо яшчэ адну вельмі вялікую памылку, — не умеем сушыць лёну пры агні: ці яго недасушваем, баючыся спаліць, ці наадварот перасушваем, і пэўную частку, такім чынам, спальваем. Дапільнаваць жа патрэбную тэмпэратуру цяжка, бо розьніца паміж найніжэйшаю і найвышэйшаю тэмпэратураю бывае ўсяго 5–7° С.

З гэтага відаць, што дамовым прымітыўным спосабам лён дасушыць цяжка, найлепш гэта можна зрабіць толькі ў спэцыяльных для гэтага зробленых будынках і то спэцыялістымі. Пасьля таго, як лён высушаны і вытрэпаны, робіцца ў нас яшчэ адна памылка· лён звычайна мы адразу трэплем і чэшам, праз тое павялічваем колькасьць тонкае кудзелі і зьменшаем колькасьць дарагога валакна. На фабрыцы складаецца цёрты лён на 4—5 тыдняў, каб праз той час выдабраў, (вылежаўся), і адвільгатнеў.

З усяго папярэдняга мы бачым, што нават і пры найлепшым стараньні наш селянін не патрапіць так вырабіць лён, як можна, і пры найлепшым стараньні заўсёды будзе больш паклі і менш валакна, пры гэтым валакно будзе горшае якасьці, як выробленае на фабрыцы, і зразумелая рэч, што даход ад лёну хаця і будзе большы чым ад збожжа, а ўсёж такі далёка не такі, які мог—бы быць. Трэба памятаваць, што цяпер добрую цану плацяць толькі за тавар добрае якасьці, а тавар горшы прадаецца шмат таней.

І адна толькі ў гэтым можа быць парада, трэба арганізоўваць каапэратыўныя таварыствы для перароб́кі лёну, пабудаваць спэцыяльныя для гэтага будынкі, з усімі патрэбнымі прыладамі, і прыцягнуць да працы ў гэтых каапэратыўных таварыствах людзей добра азнаёмленых з гэтаю справаю.

Такая каапэратыўная арганізацыя можа даваць пэўны і пастаянны даход, асабліва, калі да перароб́кі лёну далучыць яшчэ спэцыяльную маслабойню на выраб льнанога масла – алею. S.

# Раны і як іх лячыць.

Па тых прычынах, ад якіх робяцца на целе раны, яны падзяляюцца на: сечаныя, рэзаныя, колатыя, разарваныя і стрэляныя.

Кожная з гэтых ран можа быць плыткаю альбо глыбокаю, а па даўнасьці—сьвежаю альбо задаўненаю.

Пры кожнай ране, незалежна ад таго, чым яна зроблена, бывае боль і крыватк.

Лячэньне ран. Перад тым, як лячыць сьвежую рану, трэба спачатку спыніць крыватк, асабліва калі кроў занадта сьвішча з раны. Дзеля гэтага трэба альбо прыціснуць рану чысьценькаю лапінкаю, намочанаю ў гарачай вадзе, ў вары ці ў рашчыне карболкі, крэоліны, нават у шкіпінары, лаку, палітуры; альбо, калі рана знойдзецца дзе-небудзь на назе, то нагу трэба туга перавязаць шпагацікам альбо раменьчыкам вышэй раны і патрымаць перавязку каля гадзіны. Карысна таксама дзеля спыненьня крыватку класьці да раны кавалкі лёду, альбо шматок, змочаны воцатам. А калі блізка аптэка, то бяруць рашчыну паўтарахлёрыстага жалеза (1 частку на 5 частак вады) і прыкладваюць да раны чысьценькія анучкі, намочаныя гэтым рашчынам, альбо робяць рашчын галуну (1 ч. галуну на 50 ч. вады) і таксама намочаную ў ім анучку прыкладваюць да раны, каб спыніць крыватк.

Аднак, перад тым, як спыняць крыватк, трэба абмыць рану (калі няма пад рукою карболкі ці крэоліны) хоць перагатаванаю чыстаю вадою, павыстрыгаць кругом раны валасы і павыцягваць з яе ўсё, што толькі магло набіцца ў рану (пясок, валасы і інш.).

Калі рана ўжо абмыецца і крыватк спыніцца, тады на рану накладаюць чыстую анучку і туга абвіваюць палатняным спавівачом (бінтом). Пасьля гэтага ўжо можна здымаць тугую абвязку з нагі.

Пры невялікіх крыватках можна карыстацца насеньнем крапівы, прысыпаючы ім рану. Добра прысыпаць таксама і стоўчаным чыстым бярозавым вугалем, адным ці з ёдаформам, альбо з нафталінам папалам.

Але ніколі, ні пры якіх ранах, ні пры крыватках, няможна класьці на раны брудных анучак, зямлі, гліны альбо павучыньня. Гэтым можна так забрудзіць рану, што можа прыкінуцца заражэньне крыві альбо слупняк.

Вельмі карысна прыпячы сьвежую рану ёдам перад накладаньнем павязкі.

Прыблізна на трэці дзень здымаюць павязку, наложаную на рану. Раней трывожыць рану ня варта: рана гоіцца шмат лягчэй, калі павязка застаецца даўжэй на ране. Але даўжэй двох дзён трымаць адну і тую павязку

ня варта, асабліва летам, іначай рана можа загніць пад павязкай.

Зьняўшы павязку, рану трэба ізноў прамыць рашчынай карболкі, крэоліны. Потым бяруць чыстую анучку і, зламыўшы ў тым-жа рашчыне, прыкладаюць да раны і абвязваюць значна слабей, чым першы раз.

Калі з раны выходзіць гной, то яго таксама абмываюць і прысыпаюць рану ёдаформам (1ч·) з тоўчаным вугалем (5 част.).

Калі рана пачне гаіцца, павязку часьцей, як праз 2-3 дні, ня варта мяняць, каб не разьятрыць раны. Таксама і лішніх абмываньняў вадою раны ня любяць; замест гэткіх абмываньняў досыць рану зьлёгка абцерці ваткаю ці мяккаю анучкаю, абмачыўшы яе ў чыстую газу або ў моцны рашчын солі, калі няма ёду альбо ёдаформу ці іншага лякарства.

Калі-ж бывае ў жывёлы адрэзаны або адарваны вялікі кавалкі скуры, які вісіць, то рану, ачысьціўшы, трэба пастарацца зашыць але гэта ўжо лепш можа зрабіць вэтэрынар.

Часамі, калі рана надта глыбокая альбо яна акажацца на нявыгадным месцы, то лечаць яе без павязкі. Штодня аглядаюць гэткую рану, зрэдка прыпякаюць яе ёдам і прысыпаюць ёдаформам адным ці з тоўчаным бярозавым вугалем папалам. Ачышчаючы рану, стараюцца, каб ня зьдзіраць струпа з яе.

Калі-ж рана глыбокая і з яе цячэ матэрыя, то яе не сьпяшаюцца зьверху загойваць; бо калі такая рана зажыве толькі зьверху, а ў сярэдзіне яшчэ не загоіцца, то там, у глыбі, зноў можа сабрацца гной і зробіцца верад, які прыдзецца разразаць. Каб ня даць такой ране загойвацца, у яе ўстаўляюць кноцік з ніцей ці з ваткі, які намочваюць у карболцы або ў ёдзе.

**Старая раны** таксама трудна лячыць, асабліва, калі яны глыбока заходзяць і доўга гнояцца, калі ў іх у сярэдзіне зробіцца **нарыца** (ходзікі), з якіх пакрысе выцякае гной. Без разрэзу гэткае раны вылечыць нельга: залечаная ў адным месцы, яна адчыняецца ў другім. Такую нарыцу разразаюць, пашыраюць у ёй ходзікі і лечаць, як і сьвежую рану, наглядаючы, каб яна пачынала гаіцца з глыбіні.

Такім чынам, кожную рану трэба трымаць як мага ахайна, бо толькі тады можна ўнікнуць вялікага запаленьня альбо верадаў. Таксама трэба наглядаць, каб хворая жывёла не залізвала і не разьдзірала раны, бо часта праз гэта звычайныя ранкі доўга потым ня гояцца, ператвараючыся ў шкодныя балячкі („язвы“) і гаіць іх потым значна цяжэй. Ходзячы каля раны, патрэбна таксама чыста з мы-

лам мыць перад тым рукі, каб не занесьці часамі ў рану якое-колечы заразы.

Ніколі ня варта „замаўляць кроў“, як гэта часта робіцца па вёсках, бо ўсё гэта глупства, ашуканства і ніякае карысьці ад гэтага быць ня можа, а толькі дарэмна траціцца час і грошы. Калі-ж часамі і трапляецца, што пасьля замаўленьня кроў перастае ісьці, то гэта залежыць зусім не ад таго, што шаптуха нібы знае нейкае „слова“, а дзеля таго, што яна, замаўляючы, разам з тым прыціскае жылу; кроў ад гэтага гусьцее, запірае расьсечаную жылу і крываток спыняецца.

Але-ж гэта мож зрабіць і сам кожны гаспадар, які прачытае гэтую стацьцю і выпаўніць усё, як тут гаворыцца аб лячэньні ран.

**Паводле Вэтэрынара Ів. Серады.**

# Праца вясной у садзе.

Прышла вясна. Гаспадар гатовіць прылады выехаць на поле, дзе чакае ужо яго родныя гоні. Шмат клопатаў вясна прыносіць нашаму селяніну, шмат чаго ён ня здолее зрабіць, а шмат чаго і запомніць.

Цяпер, пакуль наш садок яшчэ не пакрыўся зялёнай ліствой, мы мусім напомніць не забыцца на хвілінку заглянуць да яго і аглядзець. За зіму некаторыя дрэўцы абгрызаны зайцамі. Калі мы цяпер выпусьцім мамэнт прыйсьці яму з дапамогай, дык дрэўца бязумоўна за лета высахне і прападзе. Трэба зараз-жа ўзяцца за яго лекі.

На дрэўцы, на якіх зайцы, мышы або козы абгрызьлі кару і гэтым самым перарвалі ток сокаў ад карэньчыкаў уверх — ёсьць рада і рада прастая. Для гэтага мы на абгрызаныя часткі дрэва, калі яно абголена наўкол пня, накладаем мосьцікі з кары іншага дрэўца, або з галінкі таго-ж самага. Толькі абавязкова трэба на яблыню накладваць кару яблыні, а на грушу — кару грушы.



Рыс. 1.

Кара для мосьцікаў павінна прыгатаўляцца яшчэ тады, пакуль дрэўца не к.анула свае сокі. Выбіраецца кара маладая, здаровая, бяз розных маршчынак і з боку паўднёвага. На маладое тонкае дрэўца такіх мосьцікаў з кары накладваецца менш, а на таўсьцейшае больш. Абгрызанае месца трэба добра вычысьціць аж да самай дрэвясіны. Як толькі сокі дрэўца пачынаюць рухацца, пачынаем брацца за накладаваньне кары. Бяром адпаведнай даўжыні прышчэпку кары для мосьціка, робім два глыбокія надрэзы аж

да самай дрэвясіны нажом на карэ абгрызанага дрэўца вышэй абгрызу на манер літары т і ніжэй на манер ⊥ і ўсоўваем мосьцікі з кары. Потым гэтыя мосьцікі абвязваем туга садовай рагожай і замачваем садовай мазьзю. (гл. рыс. 1).

Пасьпех тут залежыць ад акуратнасьці ў выконваньні опэрацыі. Калі акуратна зроблена такое накладваньне, дык ў меру росту дрэва мосьцік з кары грубее і нарэшце зусім урастае ў дрэва.

## Прышчэпліваньне дрэва.

Звычайна ў садаўніцтве час прышчэпліваньня дрэва лічыцца ліпень месяц. Найлепшым спосабам прышчэпліваньня ўсюды прынята лічыць — вачкаваньне маладых дзічкаў.

У гэтым нарысе мы разгледзім іншыя спосабы прышчэпліваньня больш старых дрэўцаў, якія або зусім не даюць пладоў, або на якіх растуць плады дзікія, некаштоўныя. У такім выпадку іх прышчэпліваюць адпаведнымі нашым умовам гатункамі.

**Прышчапліваньне за кару.** Як толькі пачне ў дрэве рухацца сок і кара лёгка адстае мы будзем шчапіць яго за кару. Для гэтага на вышыні $1^1/_2$-2 вярш. зрэзваем дзічок трохі касавата даверху. Уніз ад верхняй часткі зрэза



Рыс. 2.




Рыс. 3.

на карэ робім надрэз, даўжынёй да 1 вяр. і краі падрэзу адхіляем костачкай нажа да дрэвесіны, куды і ўкладаецца чаранок. Гэты чаранок бярэцца даўжынёй каля 1 вяр. з 3—4-мя вочкамі. Адна **почка павінна знаходзіцца про-**

ціў сярэдзіны зрэза, а другая — пад зрэзам. Зрэз чаранка трэба рабіць касаваты і гладкі.

Пасьпех працы тут залежыць галоўным чынам, як гладка і акуратна дапасавала ўстаўка чаранка (глядзі рыс. 2) Ніколі ня варта, каб надрэз на карэ зрэзанага дзічка доўга чакаў ўстаўкі чаранка, бо ад гэтага сокі сьвярэюць і часта гэта самае служыць прычынай непрыжываньня прышчэпкі. Зразумела, што прышчэпку трэба абвязаць. Як толькі павязка пачне ўціскацца ў дрэва, яе трэба паслабіць, а тыдняў цераз 4—5 і зусім скінуць.

**Прышчэпліваньне ў прыкладку—капуліроўка** робіцца так, што чаранок бярэцца таўшчынёй роўны зрэзанаму дзічку (падвою). Чаранок прыкладваецца так, каб слаі дрэвясіны і кары сашліся са слаямі і карой падвою. (глядзі рыс 3). Для большай моцнасьці можна рабіць прышчэпліваньне ў прыкладку з язычком (глядзі рыс. 4)

Калі падвой таўсьцей чаранка дык робіцца касаваты другі зрэз, а прыкладваецца чаранок да першага, каб кара схадзілася з карой падвою хаця з аднаго боку (глядзі рыс 6.)

**Прышчэпліваньне ў расшчэп** вымагае тых-жа маніпуляцый, як і іншыя спосабы прышчэпліваньня, з розніцай той, што тут падвой (зрэзаны дзічок) раскалваецца


Рыс. 4.


Рыс. 5.

папалам і ў рашчэп устаўляецца чаранок (глядзі рыс. 5) Галоўнае і тут правіла, каб кара чаранка знаходзіцца над карой падвою.

Прышчэпка ў раскол робіцца большаю часткаю над сьлівамі і грушамі.

Ёсьць яшчэ шмат способаў прышчэпак, але мы тут пазнаёміліся толькі з самымі лёгкімі для пачынаючага садоўніка.



Рыс. 6.

Калі падвой тонкі, дык прышчэпліваць яго можна адным чаранком, у праціўнкм выпадку трэба прышчапіць двумя чаранкамі.

Самы адпаведны час для усіх разгледжаных способаў прышчэпак будзе тады, як сок кране ў рух. Пры нашым клімаце гэта бывае не пазьней паловы мая.

Чаранкі загатаўляюцца загадзьдзя і перахоўваюцца да часу іх ужытку ў халаднаватым месцы.

**Садоўнік.**

## Гаспадарчыя парады

**Пытаньне.** 1) Якія сарты пладовых дрэў лепш надаюцца для Заходняе Беларусі?

2) Якія штучныя угнаеньні можна ўжываць вясной па жыце? **У. Навіцкі**

**Адказ.** 1) Калі вы заводзіце садок для збыту пладоў на рынак, дык лепш было-б Вам затрымацца на адным — двух сартох. Лепшымі гатункані для нашага краю лічацца а) зімовыя: антонаўка—камянічка, антонаўка белая, бабушкіна, пэпін літоўскі; б) асеньнімі—штрэйфлін (асеньняе паласатае), харламаўка, белае салодкае, цынамонавае паласатае.

Пладовых школак каля Беластоку рэдакцыя ня ведае.

2) Найлепшым штучным угнаеньнем вясной па жыце трэба лічыць чылійскую сялетру, якую высяваюць як толькі жыта кране ў рост (2-3 пуды.). Сялетру трэба высяваць у сухую пагоду і на сухія расьлінкі.

**Пытаньне.** Як зрабіць глінабітную хату?

А. **Грыка.**

**Адказ.** Лепш за парадай зьвярніцеся да фахоўца пры Вашым павятовым сойміку. Без фахоўца ня радзім пачынаць будаваць глінабітную хату.

**Пытаньне.** Ці можна прыгатовіць са сьнятага малака добры і смачны сыр. **К. Коска.**

**Адказ.** Са сьнятога малака (з пад сэпаратара) нельга спадзявацца зрабіць добры сыр. Калі Вы маеце шмат гэтакага малака, дык лепш пачніце ім адкармліваць сьвіней, дадаючы яго да іншых кормаў. Аднэй бульбай і сьнятым малаком сьвіньню трудна адкарміць.

**Пытаньне.** Што за прычыны няплоднасьці кабыл і як іх ухіліць?. Ці шкодна праца кабылай у часе пакрываньня яе? **У. Каравай.**

**Адказ.** Прычынаў бязплоднасьці кабылы шмат, як напрыклад: цяразмерная палавая похаць, або вялы характар саміцы; прычынай можа быць і тое, што саміцэ не падабаецца самец, які адрозьніваецца ад яе тэмпэрамэнтам; прычынамі могуць быць і хваробы, як агульнага характару, так і спэцыяльныя палавых органаў.

Рух перад пакрываньнем кабыле карысны, але не цяжкая праца.

Можна трудна запладняючайся кабыле у часе пакрываньня даваць кашку з камфары па 2 зал. на дзень у працягу 10 дзён, або гарэлкі каля ½ фун. за 15 мінут перад актам. Калі саміца вельмі жырная, што таксама часта служыць прычынай бясплоднасьці яе, дык ей можна зьменшыць дачу корма, даваць часта на звальненьне і можна ей працаваць.

Паглядзіце ўвагі аб няплоднасьці каровы ў 2 (22) № „Сахі“ за 1929 г.

**Пытаньне.** 1) У мяне ёсьць добрая карова, але папсаваны сасок. Ці можна яго вылячыць і якім спосабам? 2) Што гэта за „Пастэўная“ капуста і ці варта яе ў нас разводзіць? **К. Сьветавастокаў.**

**Адказ.** 1) Ня бачачы Вашае каровы, трудна даць раду як яе вылячыць. Лепш зьвярніцеся да вэтэрынара. 2) Трэба думаць, што Вы падразумеваеце пад „пастэўнай“ капустай кармавую капусту. Пры нашых глебах і кліматычных умовах яна расьце, але наколькі гэта расьліна карысна—за бракам дадзеных рэдакцыя ўстрымліваецца Вам яе раіць. Спрабуйце на малым куску.

**Пытаньне.** Ці маем права церабіць хмызьняк і лес на межы, якая дзеліць нашы надзелы ад памешчачай зямлі і ці маем права забіраць гэтыя кусты сабе? Ці маем права церабіць гальлё дрэў лесу памешчыка, што зьвешваюцца над нашымі надзеламі? **Група падпішчыкаў.**

**Адказ:** Калі мяжа Ваша, гэта значыць, яна занесена ў Ваш плян, дык хмызьняк на мяжы маеце права церабіць і забіраць як сваю ўласнасьць. Калі-ж мяжа занесяна ў плян памешчыка, дык ён і мае права на хмызьняк, а калі мяжа супольная, дык хмызьняк належыць Вам па праву толькі да паловы мяжы.

Гальле дрэў лесу памешчыка, якое зьвешваецца над Вашай зямлёй, хаця і прычыняе Вам шкоду, глушачы Вашы сенажаці і палеткі, але ня раім Вам самачынна яго церабіць, каб часам ня былі пацягнуты памешчыкам да судовае адказнасьці. Калі рэдакцыя „Сахі" зрабіла запытаньне ў адвакатаў, што тут могуць рабіць пашкадаваныя, дык апошнія адказалі, што лепш усяго дамагацца ад уласьніка, каб ен сам гэтае гальлё падцерабіў.

**Пытаньне.** Што такое фармалін, якім запраўляюць насеньне перад пасевам і ці ня шкодна гэта для прарастаньня насеньня? Дзе фармалін можна дастаць?

**Група падпішчыкаў.**

**Адказ.** Запраўляюць насеньне фармалінам для абеззаражваньня яго ад шкадлівых расьлін бацыл. Фармалін ёсьць вадкі (водны) раствор асобнага газу (*formaldehydu*). Прадажны фармалін мае каля 40% гэтаго газу. Калі пры ўжываньні фармаліну будуць выкананы некаторыя засьцярогі, дык ён забіваючы заразу сажы на ячменю, галоўню на жыце і іншыя, ня шкодзіць здольнасьці прарастаньня зярня. Для ўжываня фармаліну бярэцца яго 1% ці 2% раствор (на 100 літраў вады 1/4 ці 1/2 літра фармаліну), разводзіцца ў цабэрку, да якога сыпецца насеньне, якое ў растворы **добра перамешваецца.** Калі раствор 1 проц., дык насеньне, трымаецца каля 30 мінут, а пры 2 проц. 10 мін. Такое насеньне злёгку перасушваецца на паветры і **заразжа высяваецца.**

Каб фармалін не забіў заольнасьць у насеньні да прарастаньня — ня трэба браць мацнейшы як 2 прац. раствор і не астаўляць насеньня доўга чакаць пасеву.

Каб гаспадар не наразіў сябе на страту, трэба ўжываць фармалін **толькі сьвежы**, бо ўпраціўным выпадку яд на бацылы з фармаліну ўцякае ў паветра.

Фармалін (40 проц.) можна дастаць у кожным аптэчным складзе.

## Парады для гаспадынь.

**Саракваша**—гэта скіслае малако, прыемнае на смак. Сараквашай часта лечацца ад розных хвароб жывата. Саракваша ў розных мясцох прыгатаўляецца па-рознаму, а таму адрозьніваецца і смакам і трываласьцю. Беларуская саракваша прыгатаўляецца проста самаквасам: працэджанае малако выліваюць у гладышы і стаўляюць у халоднае месца, пакуль яно ня ўкісьне і не пяройдзе ў сараквашу. Чым вышэй тэмпэратура малака ў часе яго акісьленьня, тым хутчэй пераходзіць яно ў сараквашу. Больш пэўны

спосаб прыгатаўленьня сараквашы — гэта цёплае малако (28–34° Ц.) заквашваецца лепшай сараквашай. Дзеля закваскі трэба дастаць смачную, густую сараквашу. Зьняўшы і выкінуўшы з узятай для закваскі сараквашы верхні пласт, дзе ёсьць шмат шкадлівых, папаўшых з паветра, бактэрый, сараквашу, якая засталася, старанна разьмешваюць і расьціраюць ложкай. Пасьля да яе дабаўляюць пакрысе назначанага для закваскі малака. Далей гэтая закваска зьмешваецца з заквашаным малаком, што засталося. Пасудзіна накрываецца ад пылу паперай або чыстым ручніком, пакідаючы на некаторы час (8-12 гадзін) у поўным супакоі да няпоўнага згушчэньня, пасьля чаго маладая сараквашa выносіцца на холад, каб дасьпець і ахаладзіцца. Прыгатоўленая гэткім спосабам сараквашa будзе лепшага гатунку, чым зробленая самаквасам, і малако хутчэй кісьне (8-12 гадзін).

На Каўказе сараквашa прыгатаўляецца з паранага малака, якое ў цёплым стане заквашваецца добрай сараквашай. Калі малако спарыцца, дык гэтым самым гінуць у ім усе шкадлівыя бактэрыі, вось чаму такая сараквашa лічыцца зусім бясьпечнай.

**Варанец.** Варанец—ёсьць асобны від сараквашы і прыгатаўляецца з адтопленага або паранага малака. Парачы малако, здымаецца з яго пенка.

Паранае і адагравае малако мае бура-чырвоны выгляд. У гэтае малако кладуць змолатую пенку і заквашваюць добрай сараквашай. Варанец бывае больш гусьцейшы і смачнейшы за звычайную сараквашу і прадаецца за больш высокую цану.

**Калатуха.** На Украіне прыгатаўляецца калатуха, якая некалькі адрозьніваецца ад варанца.

Малако варыцца да тэй пары, пакуль ня выварыцца пятая частка. Пасьля ахаладжваньня, малако заквашваецца вялікай колькасьцю добрай густой сьмятаны: на 5 шклянак малака бяруць 1 шклянку сьмятаны. Пасьля гэтага дадаюць некалькі яек, і ўсё гэта пакідаюць стаяць у цёплым месцы. Праз некалькі гадзін пачынаецца процэс скісаньня. Тады гэты згустак разьбіваецца колаcткай, і калатуха гатова. Трываласьць калатухі такая самая, як і сараквашы, але смак яе асаблівы.

**Гусьлянка.** У Аўстрыі сяляне прыгатаўляюць з малака так званую гусьлянку. Малако гатуюць на слабым агні на працягу гадзіны, пасьля ахаладжваньня заквашваюць яго старой гусьлянкай, або сьмятанай. Гусьлянка мацней сараквашы, захоўваецца месяцамі і пры гэтым сыроватка не аддзяляецца.

# Каапэрацыя.

## Што такое каапэрацыя

Слова „каапэрацыя“ ўжо занесена ў-ва ўсе куткі нашае старонкі. Жыцьцё працоўнага народу Заходняе Беларусі паставіла каапэрацыю на парадак дня і зрабіла яе найактуальнейшай справай мамэнту. Абудзіўшыся беларускі народ зразумеў, што ратунку трэба не чакаць, а шукаць — і не па чужым панадворкам, а толькі ў сябе дома.

Заклік да каапэрацыі, гучна раздаўшыйся на старонках беларускае прэсы (асабліва прымусова замоўкнуўшай — радыкальнай), знайшоў адзыў сярод беларускае вёскі і працоўных гораду, дзе відаць да гэтага жыцьцё апошніх дзён прыгатавала грунт. Наш народ зразумеў, што толькі шляхам супольнай працы ўсяго Беларускага Народу, толькі шляхам самапомачы і каапэрацыі можна будзе направіць свой гаспадарчы быт і стварыць сваю народную гаспадарку, бяз якой немагчыма поўнае нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне.

Беларускім каапэратыўным рухам зацікавіліся і польскія дзеячы, заклікаючы нас да сумеснай працы ў рады адзінае польскае каапэрацыі, абецаючы нам розныя палёгкі. Справа гэта ня лёгкая, якую маглі-б выразшыць толькі каапэратары з усіх куткоў нашае бацькаўшчыны, на што пры сучасных палітычных абставінах лічыць трудна, бо з‘езд такі цяпер больш чым сумліўны. Каб не нарабіць памылак, якія могуць загубіць усю справу, нам да гэтага кроку трэба падгатавацца, абдумаць і добра зразумець сутнасьць каапэрацыі і тыя думкі і ідэі, якія выклікаў зарадзіўшыйся сучасны каапэратыўны рух у Заходняе Беларусі.

Людзкая думка на працягу ўсяе гісторыі чалавецтва шукала лепшых умоў і формаў для існаваньня чалавека. Шукаючы гэтых формаў чалавек заўсёды вёў барацьбу за права свайго існаваньня, барацьбу за сваё вызваленьне.

І права гэта здабываў толькі сільнейшы, спрытнейшы і здальнейшы. На розных ступенях разьвіцьця чалавека, ствараліся і розныя формы жыцьця, розныя ўзаемныя адносіны ў грамадзянстве і розныя формы вызыску чалавека чалавекам. Натуральна, што і барацьба за вызваленьне прымала тыя ці іншыя формы ў залежнасьці ад унутраных і вонкавых абставін жыцьця.

На зары сваей гісторыі першабытны чалавек быў заклапочаны справай свайго вызваленьня з-пад залежнасьці зьявішчаў прыроды. Вядучы гэту барацьбу, чалавек і тады

добра разумеў, што адзін, без дапамогі другіх ён ня здолее асягнуць пажаданых вынікаў і заўсёды імкнуўся да супрацоўніцтва з суседзямі, злучаючыся ў першабытныя колектывы—камуны. І вось, ужо ў гэтых колектывах можна дагледзець першыя праявы ідэі каапэрацыі.

Далей, з пераходам чалавецтва на шлях уласна-грамадзкага жыцьця, зьяўляюцца клясы, пачынаецца эксплёатацыя чалавека чалавекам і працоўныя пачынаюць весьці барацьбу за вызваленьне з-пад залежнасьці прывільяваных клясаў. У гэтай барацьбе праціўнікі заўсёды выступаюць арганізавана, разумеючы, што толькі будучы злучаны з грамадой змогуць дабіцца пастаўленай сабе мэты.

Тэхнічныя вынаходы XVIII стагодзьдзя выклікалі пераварот у-ва ўсей прамысловасьці. Старыя сераднявечныя формы вытворчасьці, асновай якіх зьяўлялася праца рамесьнікаў, злучаных у цэхі, не маглі вытрымаць конкурэнцыі новых формаў машыннае вытворчасьці, г. зв. фабрычнае прамысловасьці, і пачалі выміраць. Рамесьнік, выпіхнуты са сваімі таварамі фабрыкай, зьвярнуўся да апошняй з прапановай сваей рабочае сілы, пераходзячы такім чынам у клясу пролетарыяту. Шляхам вызыску работніка працадаўца будуе свой дабрабыт, накаплівае багацтва. Але і работнік ня быў доўга нямым сьведкам сваёй эксплёатацыі. Пераходзячы у клясу пролетарыяту, ён пачаў барацьбу за сваё лепшае існаваньне. Бачучы, што кляса капіталістаў і фабрыкантаў мае вялізны ўплыў на дзяржаўнае кіраўніцтва, ваботнік скіраваў барацьбу на палітычную працу. Арганізоўваюцца работніцкія арганізацыі, як яўныя, так і тайныя, маючыя на мэце захоп улады ў свае рукі. У найбольш прамысловых краінах і асяродках найперш разьвіваецца рэвалюцыйны рух, якім так багата гісторыя першай паловы XIX стагодзьдзя. Вядучы барацьбу за дзяржаўную ўладу, тагачасныя рэвалюцыяністы заўсёды падчырківалі, што здабыцьцё гэтае ўлады ёсьць ня мэтаю іх, а толькі сродкам да мэты — паляпшэньня свайго быту. Французкія рэвалюцыяністы таксама казалі, што палітычная улада — наш сродак, а экономічны дабрабыт — наша мэта.

І вось, вядучы барацьбу за сваё вызвалньне на ніве палітычнай, жыцьцё паказала, што трэба зьвярнуць увагу і на эканамічную справу, бо вызвалючыся эканамічна, хутчэй можна дасягнуць пастаўленай мэты. Думка гэта—стварэньне уласных працоўных эканамічных пляцовак занімае умы лепшых адзінак грамадзянства. Пад уплывам гэтае думкі паўстае новая тэорыя, якая ведама пад імем „**каапэрацыя**“.

Першымі прапагандзістамі ідэі каапэрацыі былі Робэрт Оуэн і Кароль Фур'е. Абодва яны адначасна і сама-

стойна ў сваіх развлжаньнях над існуючым грамадзкім ладам прышлі да перакананьня, што капіталістычны лад знаходзіцца ў вялізнай супярэчнасьці з тымі імкненьнямі і ідэаламі, якія паўсталі пасьля Вялікае Францускае Рэвалюцыі.

На месца прыгону, які быў ад'знакай фэодальнага пэрыяду, прышоў новы капіталістычны лад, які ня толькі ня вызваліў працу ад вызыску капітала, але аддаў яе ў новую кабалу. Такім чынам палажэньне працоўнага як было паднявольным, такім яно і засталося, хаця і зьмяніліся формы вызыску. Самы напрамак капіталізму прыняў для большай часткі грамадсянства шкадлівы характар, ад чаго паўстае тое гаспадарчае бязладзьдзе з эканамічнымі крызысамі, концэтрацыяй багацтва ў нялічнай групе грамадзянства і ўпадкам маральнасьці. Ад усяго гэтага больш усяго церпіць якраз кляса працоўных.

У выніку ўсіх гэтых развлжаньняў, як Фурь'я так і Оўэн прышлі да таго перакананьня, што толькі падпарадкаваньне ўсей прамысловае дзейнасьці інтэрэсам спажыўца і працы зможа ўратаваць працоўных і наагул чалавецтва. Трэба было знайсьці новую гаспадарчую форму, у якой ня было-б усіх гэтых супярэчнасьцяў. Такую новую форму яны прапануюць у пастаці **самавыстарчальнай гаспадарчай арганізацыі,** якая-б магла задавольніць усе патрэбы сваіх сяброў і ў якой кожны сябра, аддаючы ей сваю працу, мог-бы зьяўляцца адначасна і поўным гаспадаром гэтае арганізацыі.

Не задавальняючыся аднымі тэорэтычнымі развлжаньнямі, яны імкнуцца паказаць грамадзянству на практыцы ўсе карысьці запрапанаванае імі новае гаспадарчае формы. Праўда, гэта першая спроба дала ад'емныя вынікі і няўдачу пацярпелі, але прычынай тут будзе ня мыльнасьць іх тэорыі, а адсутнасьць ўзгадаваных адзінак, якія-б маглі зараз-жа пакіраваць гэтым новым ладам.

Першая няўдача Оўэн'а і Фур'е не забіла аканчальна веры ў абвешчаную імі тэорыю. Іх крытыка сучаснага ладу і запрапанаваная імі новая ідэальная форма жыцьця глыбока запалі ў душу новых пакаленьняў. Прапаганда стварыць **самавыстарчальную** гаспадарку, прыгатавала грунт да прыстасаваньня каапэрацыі да паасобных галінах жыцьця і ў формах, даступных пры сучасным гаспадарча-сацыяльным ладзе. Абвешчаная першымі апосталамі каапэрацыі тэорыя стала новым імпульсам у справе змаганьня за сваё вызваленьне і скіравала грамадзкую думку на новы шлях. Пад уплывам гэтае тэорыі сярод працоўных пачалі паўставаць розныя таварыствы, з якіх у канцы канцоў і выкрысталізавалася сучасная каапэрацыя.

І так, сучасны каапэратыўны рух, паўстаўшы ў выніку разважаньняў грамадзкае думкі над недахопамі існуючага капіталістычнага ладу і над палажэньнем працоўных, адчыніў перад чалавецтвам новыя кругозоры, паказаў яму новыя формы гаспадарчай будовы, пры якой атрымлівае карысьць не паасобныя адзінкі, а ўсё грамадзянства.

Агульніваючы ўсё вышэйсказанае, можна адказаць на пастаўленае пытаньне, што каапэрацыя ёсьць узгадаваньне масы для пераходу да новага гаспадарчага ладу, каапэрацыя ёсьць адзін з відаў змаганьня працоўнага чалавека за сваё вызваленьне ад сыцыяльных несправядлівасьцяў сучаснага гаспадарчага ладу.

---

# Маё ўражаньне аб беларускай каапэрацыі.

І веру радасна я болей чым калі
У вялікі лёс і шлях радзімае зямлі.
**У. Жылка.**

Ня сёньня ўжо абудзіўся наш селянін ад векавечнага сну і творыць сваё жыцьцё. Усе магчымыя спосабы, ўсе магчымыя шляхі выкарыстоўвае дзеля змаганьня з нясьведамасьцю, цемраю, а разам з тым і з нэндзаю. З ростам ягонае сьведамасьці і культурнага стану пачынаюцца рабіцца першыя крокі для падняцьця свайго гаспадарчага дабрабыту, свайго эканамічнага стану. Вёска зразумела і добра сабе ўясьніла, што пры сучасных палітычных абставінах адзіным шляхам да вызваленьня з нэндзы і цемры з'яўляецца шлях барацьбы праз каапэрацыю спажывецкую, як балей даступную кішэні нашага селяніна.

І вось пачынаюць на вёсках без ніякае дапамогі, саматугам закладацца беларускія спажывецкія каапэратывы. Яшчэ ў пачатку 1928 г. залажыліся яны ў вёсках: Вялікая — Кракотка, Слонімскага пав. і Люшнево, Баранавіцкага пав. і паволі, але паступова разьвіваюцца Малы абаротны капітал, які складаецца толькі з сяброўскіх складак, выносячых не балей 15 залат., часта ставіў справу ў тупік, аднак-жа ахвярнасьць сяброў, узаемнае даверра ў працы далі магчымасьць вывернуцца з палажэньня. Тавары закупаліся невялічкімі партыямі, капітал абарачваўся часта і ў выніку В-Кракоўкі каапэратыў „Дабрабыт" за 1928 г. даў чыстага даходу 500 залат.

Цяпер ўжо іструе больш як 25 беларускіх спажывецкіх каапэратываў на Беларусі, якія паўсталі таксама саматугам, маюць ўжо крамы і паволі падымаюцца на ногі. Цяжка ім істнаваць дзеля таго, што яны не належаць да

ніякага саюзу, не карыстаюцца ні якімі грашавымі і крэдытовымі дапамогамі і павінны пакуль штоздавацца на ласку і неласку прыватных гандляроў—гуртоўшчыкоў; як не належачыя да ніякага рэвізыйнага саюзу, яны не карыстаюцца і падатковымі палёгкамі і трактуюцца скарбовымі ўладамі як прыватныя гандлёвыя прадпрыемствы. Кожны беларускі каапэратыў самастойна і незалежна, бяз ніякае лучнасьці і паразуменьня з інш. вядзе сваю працу. Гэтыя тры прычыны асабліва моцна пагаршаюць і без таго цяжкія варункі працы. Аднак-жа, паўтараю, тут на ратунак прыходзяць самі сябры і сваею ахвярнасьцю даходзяць да таго, што працуюць ў большасьці без вынагароджаньня, дастаўляюць тавары самы бязплатна, і напр. ў Люцэўскім каапэратыве „Новая Зара“ што-дня ходзяць пехатой за некалькі кілямэтраў да мястэчка закупаць там тавар, які выпадковай фурманкай дастаўляюць яго ў краму, а часта і прыносяць на сваіх плячох; у Дзешкаўскім каапэратыве „Адраджэньне“ сябры па калейцы дастаўляюць за 20 кілямэтраў са Слоніма тавар. І так ў-ва ўсіх каапэтатывах. У цяжкіх хвілінах самі сябры па магчымасьці даюць каапэратывам невялікія безпрацэнтовыя пазычкі. Праца ўладаў каапэратываў шчырая і высока-суменная. Кожны добры вынік, кожны пасьпех ў працы задавальняе іх нязьмерна, заахвочвае да далейшае працы, дадае энэргіі і падтрымоўвае веру ў лепшую прышласьць.

Усе беларускія спажывецкія каапэратывы пачыналі сваё жыцьцё вельмі маленькімі і слабенькімі. У крамах было вельмі мала, напр. ў краме Мала-Жухавіцкага каапэратыву „Змаганьне“ была на сьцяне адна полачка з ўсякай драбязгой, а у куточку стаяла полова бочкі селядцоў, аплецяны бутэль з газаю, трохі шмаравідла, солі, мыла, кіляў 5 цукру, некалькі булак і абаранак—і ўсё. Пачатковыя абаротныя капіталы каапэратываў выносілі 200-500 зл., дзеўны торг даваў 5-10 злот. А цяпер мы бачым, што напр. Войстамскі каапэратыве „Праца“ Віленскага пав. дае торгу 70-100 зл. ў дзень. Мы скажам і гэта слаба, але-ж прымем пад ўвагу тое, што істнуе ён усяго якіх небудзь 3 месяцы і гэтае параўнаньне дае падставу думаць, што будучыня гэтага каапэратыву забесьпечана.

Заданьні беларускае каапэрацыі велікія. Ня будзем гаварыць аб агульных мэтах і значэньні ў поўным яго маштабе, а разгледзімо яе працу і карысьць для вёскі ў бліжэйшай прышласьці і няхай вёска паставіць гэта заданьне сёньняшняга дня. Каапэрацыя ўхіліць ўсіх прыватных гандляроў, якія як п'яўкі сядзяць на целе вёскі; будзе дастаўляць добра-якасны тавар па даступнай цане. Пры каапэратыве заложыцца земляробска-гаспадарчы аддзел дзеля дастаўкі штучных гнояў, добрага насеньня

і земляробскіх прыладаў; заложыцца кнігарня. Апрача таго, група каапэватываў можа скупаць збожжа, яйкі, масло, вырабы бандарскія, сталярскія, лён, шэрсьць, палатно і іншыя прадукты вёскі і рабіць заменатавар з местам; каапэратыў можа мець свой млын і іншыя заклады. Усе даходы ад гэтых прадпрыемстваў і апэрацыяў не пойдуць у кішэні прыватнага гандляра, а застануцца ў руках вёскі. На гэтыя грошы каапэратыў будзе закладаць бібліотэкі — чытальні, школы, народныя дамы і г. д. купляць карысныя кніжкі па гаспадарству, выпісваць газэты і наагул весьці культурную працу. Вось найбліжэйшыя перыспэктывы працы і задач беларускае каапэрацыі на вёсцы.

Па тым ходзе працы, па тых выніках, пры тым ідэёвым запале, высокай сьведамасьці і ахвярнасьці сяброў ня можна ня верыць, што каапэрацыя, як адзіны пры сучасных абставінах шлях, вызваліць нашую вёску з нэндзы, беднасьці і цемры.

Дык, браты-беларусы, ўсе як адзін ў каапэрацыю і высока падняўшы сьветач абойдзем усе бедныя і цёмныя куточкі нашае Бацкаўшчыны і кінем покліч прабудны: „Свае справы бяры ў свае рукі!“—

А.В.

## Каапэратыўная хроніка.

**Агульны сход Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Вільні.** 21 красавіка г. г. адбыўся чародны агульны сход сяброў Віленскага Беларускага Каапэратыўнага Банку.

**Парадак дня:**

1) Адчыненьне і выбары Прэзыдыума Сходу.

2) Адчытаньне пратаколу папярэдняга Агульнага сходу.

3) Справаздача Управы аб дзеяльнасьці Банку за 1928 г.

4) Справаздача Нагляднае Рады.

5) Зацьверджаньне справаздачы балянсу і р-ку прыбыляў і страт.

6) Буджэт расходаў і плян працы на 2928 г.

7) Справа замены Статуту Банку (замена Агульнага сходу З‘ездам дэлегатаў).

8) Давыбары сяброў Нагляднае Рады.

9) Бягучыя справы.

Адчыніў Агульны сход Старшыня Нагляднае Рады інжынер А. Трэпка.

На старшыню агульнага з‘езду выбраны грам. М. Петкевіч, на сэкрэтара гр. П. Пяткун.

Са справаздачы Управы і Нагляднае Рады высьнілася, што, ня гледзячы на цяжкі год, стан Банку з кожным днём паляпшаецца. Гэту вестку сход спаткаў з вялізнай радасьцю.

Замест выбаўшых сяброў нагляднае Рады: гр. гр; А. Трэпкі, У. Лукашэвіча і К. Крука на іх места былі выбраны: інжынер А. Дыліс, доктар М. Марцінчык і гр. С. Татарын, а на кандыдатаў: гр. гр. П. Пяткун, П. Кізевіч і Ю. Саковіч.

**Стварэньне пры Банку каапэратыўнае сэкцыі.** Агульны сход пры разглядзе пляну працы Банку на будучыню даў загад Наглядпае Радзе стварыць пры Банку каапэратыўную сэкцыю, якая павінна апякавацца беларускай каапэрацыяй.

**Адчыненьне пры Банку рахунку дробных ашчаднасьцяў.** Каб даць магчымасьць незаможнаму грамадзянству рабіць ашчаднасьці, Банк пастанавіў адкрыць адпаведны рахунак і павесьці ў гэтым кірунку шырокую агітацыю сярод працоўных беларускіх мас. Уклады па гэтаму рахунку прыймаюцца да 200 зл. з апрацантаваньнем у 6 проц.

**Ахвяры на будову уласнага дому Бел. Каап. Банку.** Ад грам. С. Дараховіча паступіла на будову уласнага дому для Банка 5 зл., за што Банк складае ахвярадаўцу шчырую падзяку.

**Беларускія Каапэратывы — сябры Банку.** У апошнія часы зложылі дэклярацыі і залічаны сябрамі Банку беларускія каапэратывы: 1) У Войстаме Вялейскага пав „**Праца**“
2) у Сьвіслачах Ваўкавыскага пав. „**Праца**“
3) у В. Кракотцы Слонімскага пав. „**Дабрабыт**“
4) у Шаркоўшчыне Дзісьненскага пав. „**Зорка**“
5) у Сімакове Стаўпецкага пав. „**Сьвет**“.
6) у Малых Жухавічах Стаўпецкага пав. „**Змаганьне**“
7) у Люцэвічах Стаўпецкага пав. „**Новая Зара**“.

## Наша пошта.

**Я. Смыку.** 4 зл. у „Пчалу“ і 3 зл. у рэд. „Студэнская Думка“ перадалі.

**М. Петэльскаму, Герэсю Ул. і інш.** Пробкі заводзкага насеньня разосланы. Больш рэдакцыя „Сахі“ высылаць ня можа.

**С. Сэрафімовічу.** Ваш закід ў пісьме рэдакцыі ў неакуратным атрымліваньні Вамі „Сахі“ ня слушны. Рэдакцыя мае на мэце не матэрыяльную карысьць, выдае „Саху“ ня з мэтай заробкі, а толькі для пашырэньня гаспадарчае веды ў нашае старонцы. Дык зразумела, што ў неакуратным атрымліваньні Вамі беларускае прэсы трэба вінаваціць не адміністрацыю і рэдакцыю, а пошту і асабліва тых

Рэдактар-Выдавец — А. Уласаў.

грамадзян, якія атрымліваюць для вёскі карэспадэнцыю з пошты.

Змагайцеся з гэтым злом на мясцох.

Рэдакцыя „Сахі" пільна сачыць за экспэдыцыяй і кожны раз высылае па першай заяве нашага падпішчыка паўторна не атрыманы нумар.

---

## Цэны у Вільні 25. IV. 1929 г.

| | |
|---|---|
| Жыта 100 кілёграмаў | 42 — 41.00 |
| Ячмень „ „ | 40 — 39.00 |
| Авёс „ „ | 40 — 39.00 |
| Бульба „ „ | 17 — 14.00 |
| Вотрубі пшонныя 100 кілёграмаў | 36 — 30.00 |
| „ жытвія „ „ | 33 — 28.00 |
| Сена 100 кілёграмаў | 21 — 16.00 |
| Салома „ „ | 15 — 11.00 |
| Масла салёнае 1 кілгр. | 5.50 — 4.80 |
| Саланіна | 4.20 — 3.80 |
| Сыр 1 кілёг. | 2.00 — 1.40 |
| Малако літр | 0.45 — 0.35 |
| Яйкі 10 шт. | 1.50 — 1 30 |
| Цыбуля 100 кіл. | 50 — 40. |
| Чылійская сялетра 100 кілёг. | 18 проц.—65½ зл. |
| Азотняк 100 кілёгр. | 21 проц.—47 — „ |
| Супэрфасфат 100 кілёгр. | 18 проц.—22½ „ |
| Тамасоўка „ „ | 18 — „ |
| Паташовая соль 100 кілёгр. | 30 проц.—23½ „ |
| Каініт 100 кілёгр. | 8½ „ |

Даляр — 8.89 — 8.93

Залаты рубель — 4.58—4.65.

---

# ПРЫЙМАЕЦЦА ПАДПІСКА

## на сельска-гаспадарчую часопісь

# „САХА“

## на 1929 год.

Усе гадавыя падпішчыкі, выслаўшыя падпіску да 20 мая, атрымаюць апрача нумароў «Сахі» яшчэ з наступным нумарам кніжку з сялянскае бібліотэкі:
**«Як палепшыць пяшчаную глебу».**

Тыя падпішчыкі, якія прышлюць адным переказам падпіску на пяць нумароў—шосты дастануць дарма.

Пры гэтым нумары ўсім гадавым падпішчыкам «Сахі» высылаецца кніжка «Залажэньне спажывецкага каапэратыву на вёсцы».

**Гадавая падпіска 3 злоты.**

**На паўгоду . . 1 зл. 75 гр.**

*Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Віленская вуліца № 8.*